*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




# Наша слова






Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 40 (579) 16 КАСТРЫЧНІКА 2002 г.


## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на чацвёрты квартал 2002 года. У гэтым квартале мы чакалі росту падпіскі. Так у асноўным і адбылося. Акрамя Берасцейскай усе вобласці далі прырост. Асабліва радуе гэты рост на 30 % падпіскі ў Гомельскай вобласці. Зноў добра папрацавалі актывісты ТБМ у Горадні. Па Горадні і раёну падпіска дасягнула 162 асобнікаў. Раптам вырасла падпіска ў Слуцку з 9 да 28 асобнікаў. Пры гэтым у суседнім Салігорску - 4 асобнікі. Сакратарыяту ТБМ яшчэ належыць прааналізаваць вынікі больш грунтоўна, і выпрацаваць тактыку далейшага росту падпіскі.

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в | 42 | 16 |
| Бяроза р.в. | 9 | 9 |
| Белаазёрск р.в | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 18 | 22 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 9 |
| Драгічын р.в. | 1 | 1 |
| Жабінка р.в. | - | 1 |
| Іванава р.в. | 1 | 3 |
| Івацэвічы р.в | 4 | 4 |
| Камянец р.в. | 2 | 4 |
| Кобрын гор. | 5 | 4 |
| Лунінец гор. | 4 | 5 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 37 | 20 |
| Пружаны р.в. | 6 | 9 |
| Столін р.в. | 3 | 3 |
| **Усяго:** | **136** | **113** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 2 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 29 | 41 |
| Віцебск РВПС | 4 | 2 |
| Верхнедзвінск р.в. | 6 | 7 |
| Глыбокае р.в. | 3 | 5 |
| Гарадок р.в. | 3 | 6 |
| Докшыцы р.в. | 4 | 2 |
| Дуброўня р.в. | 1 | 2 |
| Ліёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р.в. | 2 | 2 |
| Міёры р.в. | 6 | 11 |
| Новаполацк гор. | 32 | 39 |
| Ворша гор. | 20 | 18 |
| Полацк гор. | 42 | 42 |
| Паставы р.в. | 5 | 6 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 1 |
| Талочын р.в. | 3 | 3 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 5 | 4 |
| Шуміліна р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **178** | **201** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 5 | 10 |
| Барысаў гор. | 4 | 7 |
| Вілейка гор. | 5 | 5 |
| Валожын гор. | 7 | 6 |
| Дзяржынск р.в. | 3 | 3 |
| Жодзіна гор. | 9 | 10 |
| Клецк р.в. | 1 | 2 |
| Крупкі р.в. | 1 | 2 |
| Капыль р.в. | - | 1 |
| Лагойск р.в. | 4 | 4 |
| Любань р.в. | 7 | 5 |
| Менск гор. | 405 | 430 |
| Менск РВПС | 16 | 15 |
| Маладэчна гор. | 23 | 19 |
| Мядзель р.в. | 7 | 7 |
| Пухавічы РВПС | 9 | 11 |
| Нясвіж р.в. | 3 | 4 |
| Смалявічы р.в. | - | 1 |
| Слуцк гор. | 9 | 28 |
| Салігорск гор. | 4 | 4 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | - |
| Стоўбцы р.в. | 14 | 10 |
| Узда р.в. | 1 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 8 | 7 |
| **Усяго:** | **545** | **593** |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 4 | 7 |
| Брагін р.в. | 1 | 6 |
| Ветка р.в. | 1 | 5 |
| Гомель гор. | 61 | 93 |
| Гомель РВПС | 4 | 4 |
| Добруш р.в. | 2 | 3 |
| Ельск р.в. | 3 | 2 |
| Жыткавічы р.в. | 26 | 21 |
| Жлобін гор. | 7 | 17 |
| Калінкавічы гор. | 2 | 2 |
| Карма р.в. | 1 | 1 |
| Лельчыцы р.в. | 2 | - |
| Лоеў р.в. | 1 | 2 |
| Мазыр гор. | 10 | 23 |
| Акцябарскі р.в. | - | 1 |
| Нароўля р.в. | - | 2 |
| Петрыкаў р.в. | 2 | - |
| Рэчыца гор. | 6 | 7 |
| Светлагорск гор. | 8 | 10 |
| Хойнікі р.в. | 4 | 1 |
| Чачэрск р.в. | 1 | 3 |
| **Усяго:** | **143** | **212** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | - | 3 |
| Ваўкавыск гор. | 12 | 13 |
| Воранава р.в. | 4 | 5 |
| Горадня гор. | 87 | 116 |
| Горадня РВПС | 42 | 46 |
| Дзятлава р.в. | 7 | 6 |
| Зэльва р.в. | 3 | 5 |
| Іўе р.в. | 2 | 2 |
| Карэлічы р.в. | 8 | 5 |
| Масты р.в. | 12 | 13 |
| Навагрудак гор. | 10 | 9 |
| Астравец р.в. | 3 | 3 |
| Ашмяны р.в. | 5 | 6 |
| Смаргонь гор. | 11 | 13 |
| Слонім гор. | 10 | 8 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в.ю | 5 | 4 |
| Ліда | 29 | 17 |
| **Усяго:** | **254** | **278** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 5 | 5 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в | 1 | 1 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | - | 1 |
| Горкі гор. | 25 | 32 |
| Дрыбін р.в | - | 2 |
| Кіраўск р.в. | - | 1 |
| Клічаў р.в. | - | 1 |
| Краснаполле р.в. | - | 1 |
| Крычаў р.в. | - | 1 |
| Клімавічы р.в. | 3 | 3 |
| Касцюковічы р.в. | 2 | 2 |
| Круглае р.в. | 3 | 5 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 1 |
| Магілёў гор. | 18 | 20 |
| Магілёў РВПС | - | - |
| Асіповічы гор. | 7 | 7 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 2 |
| Хоцімск р.в. | - | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | 4 |
| Чавусы р.в. | - | 1 |
| Шклоў р.в. | 3 | 4 |
| **Усяго:** | **72** | **96** |
| **Усяго па краіне:** | **1328** | **1493** |

**Спадару У.У.Навумаву**
**Міністру ўнутраных спраў**
**Рэспублікі Беларусь**
**№ 4. гарадскі вал,**
**220615 Мінск**

**Паважаны Уладзімір Уладзіміравіч!**

23 верасня 2002 г. на вядомага ў Беларусі і ва ўсім цывілізаваным свеце навукоўца, пісьменніка і энцыклапедыста Адама Мальдзіса, быў здзейснены бандыцкі напад. Каля пад'езда ўласнага дома пісьменніка жорстка збілі і абрабавалі.

Апошнім часам у нашай краіне, дзе супрацоўнікаў міліцыі болей, чым вайскоўцаў, склалася заганная практыка нападу на знакамітых і простых людзей, іх збіццё і рабаванне. Дастаткова толькі прыгадаць напады на рэжысёраў Мазынскага і Хашчавацкага, гісторыка і палітыка Караля, лідэра партыі "Надзея" Палевікову і яе мужа. І вось рука злачынца, як раз напярэдадні пісьменніцкага з'езда, паднялася на Адама Мальдзіса, чалавека, які варты не адной дзяржаўнай узнагароды. У нас жа замест ордэна ці дзяржаўнай прэміі беларускага інтэлігента чакае ўдар па галаве альбо наогул бясследнае знікненне.

Ніводнае злачынства не раскрыта. Складваецца ўражанне, што міліцыя і не збіраецца гэта рабіць, бо прэсцэнтр Вашага ведамства маўчыць.

Зыходзячы з вышэйсказанага, прапаную Вам, шаноўны спадар Міністр, узяць расследаванне справы Мальдзіса, а таксама іншых названых мною людзей, на асабісты кантроль.

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"**
**Алег Трусаў.**

# Да 80-годдзя Уладзіміра Калесніка



З выпадку 80-годдзя з дня нараджэння вядомага беларускага літаратара Уладзіміра Калесніка ў цэнтральнай выставачнай зале Берасця адкрыта выстава, дзе разам з работамі мастакоў з Берасця, прысвечаных пісьменніку, у экспазіцыі сабраны ўнікальныя фотаработы самога Уладзіміра Калесніка. На іх можна ўбачыць яго сяброў: Уладзіміра Караткевіча, Алеся Адамовіча, Янку Брыля і многіх іншых знакамітых беларускіх літаратараў і вучоных.

**На здымку:** партрэт Уладзіміра Калесніка, выкананы мастаком з Берасця Сяргеем Козакам.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**




## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Алесь Раманоўскі -3000
2. Уладзімір Содаль -1000
3. Вагіновіч Алесь -10 дол.
4. Суполка "Рэфармацыя" - 50 дол.
5. Абакунчык Галіна -1000
6. Гушынскі Дзяніс -1000
7. РуП Бел.Мабіл.Энерга -20000
8. Турук Рыгор -10000
9. Шупенька Сяргей -5000
10. Русаў Пётра -5400
11. Удзельнікі нечарговага з'езду СБП -1620

Усе г. Менск

12. Рудэка Людміла -2000 г. Нясвіж
13. Фурс Аляксандр -5000 г. Паставы

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

# Пілігрымка Турынскай Плашчаніцы

распачалася з Беларусі на Украіну 28 верасня. Урачыстасць, прысвечаная перадачы Украіне фотакопіі Турынскага Савана адбывалася ў сталічным касцёле Святых Сымона і Алены. У набажэнстве і цырымоніі перадачы беларускай рэліквіі прымалі ўдзел беларускія і украінскія святары, царкоўныя хоры дзвюх краін. Пад скляпеннямі храма ў малітвах і казаннях гучалі мовы беларускага і украінскага народаў.

У свой час, 5 траўня гэтага года, поўнамасштабная копія хрысціянскай рэліквіі была прывезена ў Менск з італьянскага горада Турына. Гэта сталася магчымым, дзякуючы намаганням навукова-даследчага цэнтра па вывучэнні Плашчаніцы, які дзейнічае пры Чырвоным касцёле.

Падарожжа беларускай фотакопіі Савана па Украіне, як меркавалася, пачнецца з Львоўскага аэрапорта, адкуль працэсія накіруецца ў сабор святога Юзафа. Дарэчы, усе канфесіі Украіны выказаліся за тое, каб выставіць у сябе гэтую рэліквію. Так што пілігрымку фотакопіі Турынскага Савана можна назваць экуменічнай.

*Ірына Ляксеева.*

# Не – рэпрэсіўным законам!

**Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага кодэкса "Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 367), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт. 369)**

*Прозвішча, імя, імя па бацьку* ____________________
*Год нараджэння* ____________________
*Адрас* ____________________
*Асабісты подпіс* ____________________

***Заўвага:*** *Ваш подпіс можа стаць падставай для заканадаўчай ініцыятывы з мэтай адмены вышэйзгаданых артыкулаў. Запоўнены купон просім накіраваць у рэдакцыю газеты.*





## "Пра Беларусь з любоўю" на Палтаўскім тэлебачанні

З 1 кастрычніка 2001 года на Палтаўскім абласным дзяржаўным тэлебачанні выходзіць цыкл перадач "Пра Беларусь з любоўю". Гэта – міжнародны праект, арганізатарамі якога выступілі Палтаўская абласная тэлерадыёкампанія "Лтава" (генеральны дырэктар Мікола Ляпаненка), культурна-асветнае аб'яднанне беларусаў у Палтаве "Агніца" (кіраўнік Іна Снарская), Касцёл Св. Сымона і Св. Алены г. Менска (пробашч-ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк), Белвідэацэнтр (дырэктар Віктар Шавялевіч). Аўтар праекта – вядомая ў Беларусі і на Украіне паэтэса, тэлежурналіст Іна Снарская (Дзідык).

Перадачы цыклу распавядаюць пра гісторыю Беларусі, яе духоўную спадчыну, культуру і традыцыі беларускага народу. "Калі муры гавораць" – перадача пра гісторыю Лошыцкага парку ў Менску, "Прасі за мяне, Маці Божая" – пра свята Будслаўскай Божай Маці на Мядзельшчыне і цудатворны абраз, відэарэпартаж пра міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа" у Магілёве – гэта толькі некаторыя з матэрыялаў цыклу "Пра Беларусь з любоўю", які разлічаны на беларусаў, якія жывуць на Украіне, а таксама на украінцаў, якія цікавяцца жывымі крыніцамі духоўнасці сучаснай Беларусі. Перадачы выходзяць у эфір два разы на месяц на ўкраінскай і беларускай мовах. У бліжэйшых праектах тэлежурналістаў з Украіны – ажыццяўленне творчай камандыроўкі ў Менск з мэтай відэаздымкі дакументальнага фільму пра Янку Купалу. Дабрадзейная дапамога на ажыццяўленне гэтага праекту нададзена Віктарам Сулкоўскім, дырэктарам гандлёвай кампаніі "Дзюна" з горада Сыктыўкара.

*Алена Тышкевіч, г. Палтава.*

## БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ ім. ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА МОЖА ЗНОЎ АДНАВІЦЦА Ў СТАРАЖЫТНЯЙ ВІЛЬНІ

7 кастрычніка 2002 года у памяшканні літоўскага парламенту адбылося паседжанне Камітэту Сойму Літоўскай Рэспублікі па асвеце, навуцы і культуры № 47.

На ім было разгледжана пытанне аб аднаўленні дзейнасці ў Вільні беларускага музея імя Івана Луцкевіча, гвалтоўна зачыненага бальшавікамі ў 1945 годзе.

У паседжанні Камітэту прынялі ўдзел акрамя яго сяброў, старшыня камісіі па справах НАТА літоўскага Сойму Вацлаў Станкевіч, старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька, намеснік міністра культуры Літоўскай Рэспублікі Роландас Квяткаўскас і іншыя музеязнаўцы і навукоўцы, а таксама старшыня Таварыства беларускай мовы ім. Ф. Скарыны, дацэнт кафедры гісторыі і музеязнаўства Алег Трусаў.

Пасля плённай і цікавай дыскусіі, камісія Сойму Літвы прыняла рэшэнне аб падтрымцы ідэі аднаўлення беларускга музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні, як філіялу Літоўскага нацыянальнага музея ў былых памяшканнях музея ў гістарычным цэнтры горада.

Было выказана спадзяванне, што беларускія ўлады станоўча адгукнуцца на гэты акт добрай волі і акажуць магчымую дапамогу ў аднаўленні аднаго з самых знакамітых беларускіх музеяў першай паловы XX ст. ст.

**Старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве – Х. Нюнька**

Вільня 10.10.2002 года.

## Да 210-годдзя Івана Грыгаровіча

Ёсць вучоныя, дзейнасць якіх для нас непрыкметная, і таму іх роля ў навуцы памылкова ўяўляецца вельмі сціплай. Імя Івана Іванавіча Грыгаровіча ведаюць толькі спецыялісты – гісторыкі і мовазнаўцы. Праца ж яго мела і мае велізарнае значэнне для навукі і культуры. Не адно пакаленне даследчыкаў звярталася да падрыхтаваных ім зборнікаў унікальных дакументаў, што выдаваліся яшчэ ў першай палове XIX ст. Для Беларусі, якая страціла большую частку сваіх архіваў і бібліятэк, гэтыя зборнікі надзвычай каштоўныя. Менавіта Іванам Грыгаровічам былі вывучаны старажытныя дакументы, што захоўваліся ў тагачасных Магілёўскіх архівах. У 1824 г. з фінасавай дапамогай знакамітага гомельскага графа Мікалая Румянцава ён выдаў першую частку "Беларускага архіва старажытных грамат". У зборнік уваходзілі розныя дакументы XV-XVIII стст., большасць якіх напісана на беларускай мове. Наступнай яго манументальнай працай стала выданне 5-томнага збору "Актаў Заходняй Расіі". Міждзярдаўныя акты, граматы на магдэбургскае права гарадам, дакументы аб войнах, паўстаннях, міжканфесійных адносінах у XIV-XVII стст. Скарб неацэнны...

Вялікая колькасць падрыхтаваных вучоным прац, на жаль, засталася не выдадзенай. То сродкаў не хапала, то цэнзура замінала.

Апошнія два свае дзесяцігоддзі ён жыў у Пецярбургу. Працягваў шукаць і даследаваць старажытныя помнікі, працаваў над складаннем слоўніка беларускай мовы (нагадаем, што ў той час выкарыстанне беларускай мовы у Расійскай імперыі было забаронена).

І часта ў думках вяртаўся на Магілёўшчыну, у свой родны, мала каму вядомы гарадок Прапойск (сённяшні Слаўгарад)...

*Людміла Трэпет.*

# На вучнёўскай канферэнцыі

24 верасня ў музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася вучнёўская канферэнцыя "Іх слова і сёння гучыць так надзённа..." Гэта было чарговае мерапрыёмства, прысвечанае 120 – годдзю з дня нараджэння Я. Коласа і Я. Купалы.



У канферэнцыі прымалі ўдзел вучні са школ Менскага раёна. Яны падрыхтавалі свае вершы, публіцысцкія замалёўкі, рэфераты, сачыненні.

У зале музея разам з тым адбылася і прэзентацыя выставы М. М. Рыжова. Гэта яго першая выстава. Яна вельмі добра дапаўняла канферэнцыю.

Пасля невялічкіх уводзін супрацоўнікаў музея слова атрымалі прадстаўнікі журы. Людміла Сцяпанаўна Давідоўская – загадчык аддзела Дзяржаўнага літаратурнага музея Я. Купалы. Яна сказала, што любы культурна-літаратурны пачатак не будзе мець поспеху, калі ў ім не будзе прымаць удзел моладзь. Расказала пра свята ў Вязынцы Пажадала усім плёну, моцы, здароўя, духоўнага росту.

Затым выступіў Міхаіл Іванавіч Пратасевіч – супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа. Ён сказаў аб тым, што Я. Колас выступіў у паэзіі, у друку як змагар за праўду, дабрыню. Міхаілам Іванавічам была зроблена прапанова перадаваць свае творы ў дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Я. Коласа.

Астатнія сябры журы вырашылі выказацца напрыканцы праграмы Вядоўца праграмы паведаміла прысутным аб святах, вечарынах, якія праводзіліся ў школах у гэтым годзе. Кожны настаўнік складаў план мерапрыемства прысвечанага Я. Купалу і Я. Коласу. Тры лепшыя работы вучняў прадстаўлены на абласны конкурс, а адна з іх – на рэспубліканскі.

Канферэнцыя пачалася вершам Надзеі Клімовіч. Назва "Іх слова і сёння гучыць так надзенна" з яе твора. Сярод удзельнікаў былі Ганна Бабок, Таццяна Шкот, Аляксандра Брыцько, Сяргей Плюховіч і многія іншыя. Іх хваляванні, ўзрушанасць, таленавітасць і эмацыйнасць надавалі праграме нетрадыцыйны выгляд.

Напрыканцы сябры творчай суполкі "БУКег" – члены журы расказалі крыху пра сябе і прачыталі свае вершы.

*Ірына Секержыцкая.*

***На здымку:** верш чытае Надзея Клімковіч.*

## Партрэт кафедры: Лёс і творчасць Лідзіі Савік

*Магутны Божа!*
*Ўладар сусветаў,*
*Вялізных сонцаў*
*і сэрц малых,*
*Над Беларусяй*
*ціхай і ветлай*
*Рассып прамене*
*сваёй хвалы.*

***Н. Арсеннева.***

Літаратура сучаснай Беларусі... Ты нараджаеш шмат талентаў і іх шэдэўраў, якія сталі ўвасабленнем прыгажосці і чысціні. Як прамень святла ў будзённасці, яны – частка нашага жыцця.

Менавіта такія думкі панавалі сярод прысутных на вечарыне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры. Сюды прыйшлі паплечнікі, сябры і калегі Лідзіі Савік, выкладчыка нашай навучальнай установы. Сабраліся разам зноў, каб павіншаваць слынную аўтарку з выхадам у свет чарговай кнігі.

Твор гэты стаўся яшчэ адной прыступкай на шляху да літаратурнага Алімпу. І гэта не перабольшванне. Сусветна вядомы крытык, літаратуразнаўца, аўтарка шматлікіх прац і проста прыгожая жанчына, спадарыня Лідзія шмат гадоў з поспехам крочыць па ніве творчасці. Сярод найбольш значных яе прац – "Адчуванне сасу", "Каб не астыла цяпло зямлі, "Пад мірным небам Бацькаўшчыны", "Касмас Беларуса"...

Кніга, якая прэзентавалася, атрымала назву "Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа". Твор прыйшоў да чытача на зломе тысячагоддзяў. І гэта сімвалічна. У яго аснове – жыццё пісьменніцы, талента, асобы. "Пакліканыя" – гэта дзевяць пісьменніцкіх лёсаў. Н. Арсеннева, У. Дудзіцкі, М. Сяднёў, А. Салавей... Дзевяць зламаных лёсаў... Творцы напачатку жыцця вымушаны былі пакінуць Радзіму, каб стаць сімвалам свайго стагоддзя напачатку новага Сення, дзякуючы намаганням Лідзіі Сымонаўны, іх творы ўбачылі свет, з цікавасцю чытаюцца.

Праца аўтаркі сапраўды вялізная. Пра гэта гаварылі ўсе прысутныя. З віншаваннямі звярнулася да спадарыні Савік Вольга Іпатава – аўтарка, вядомая сучаснаму чытачу сваімі гістарычнымі творамі. У яе словах прагучала сапраўднае захапленне талентам крытыка і літаратуразнаўцы, светлай прыгажосцю жанчыны-навукоўцы.

Вечар, які застанецца ў памяці сваёй незвычайнасцю, прынёс нечаканую думку: на Беларусі не згінула яшчэ радасць... Яна жыве, і разам з ёю крочыць у будучыню наш народ. Праз шчасце, дабрыню, каханне, вясну ў душы і сэрцы... Праз пачуццё шчымлівай радасці за дзень сённяшні.

*Ігар Квяткоўскі,*

## Пад знакам 120-годдзя Купалы і Коласа



У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы прайшоў незвычайны паэтычны ранішнік. Свае вершы, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа чыталі юныя ўдзельнікі літаратурнага клуба "Купалінка", у склад якога ўваходзяць навучэнцы школ Менскага раёна. У госці да юных літаратараў прыйшлі вядомыя беларускія паэты Мікола Чарняўскі і Уладзімір Мазго.

**На здымку:** свае вершы чытае адзінаццацікласніца Мачулінскай СШ, сябар літгуртка "Пралескі" Вольга Шалай.

**Фота Аляксандра Дзядзевіча, БелТА.**

## ХРЫСЦІЯНСКІ РОК-Н-РОЛ? ЧАМУ НЕ!

**"Золак": "Зазірні ў неба", Мн., ZMK RECORDS, 2002, MC I CD.**

Гэтыя дыск і касету вы наўрад ці адшукаеце ў звычайных музычных крамах, бо рэлігійная тэматыка запісаных тут песень вызначыла ім больш адпаведнае месца – у хрысціянскіх храмах.

-- У праваслаўных ці каталіцкіх? – запытаеце вы. А адказ ужо чакае ў зграбным буклеціку выдання "Розная жанравасць песень дапасуецца да рознаканфесійнасці ўдзельнікаў гурта, сярод якіх ёсць прадстаўнікі ўсіх дамінантных рэлігійных плыняў Беларусі, уключна з каталіцкай, пратэстанцкай і праваслаўнай".

Што да рознажанравасці прадукту, дык сапраўды ёсць тут і класічныя рэлігійныя каноны са зборнікаў "Прыходзім да Цябе", "TAIZE" ў беларускіх перакладах удзельнікаў гурта "Золак" Руслана Байка (вакал, гітара) і Святланы Шэйпы (вакал), і хрысціянскія матывы беларускай рок-класікі (напрыклад, "Зямля і неба", "У начной цішы", "Хто да ясляў" – гэта новыя cover- версіі твораў гурта "Грамада", які плённа дзейнічаў на рубяжы 80-90-х гадоў мінулага стагоддзя ды спыніў сваю творчасць з-за ад'езду ягонага кіраўніка Гэнюся Шэмета на эміграцыю. Ёсць у альбоме і сусветная хрысціянская класіка (англійская мелодыя XVI ст. "Анёл ад Бога Габрыэль", расейскія канты "Христос з девы ся рождает" і "Новый год бежит")

Сярод названых імёнаў многім, відаць, ужо кінулася ў памяць вельмі знаёмае – Руслан Баёк. Так-так, гэта той самы Руслан, які піша тэксты і для гурта "Крама". Бадай, гэтым і тлумачыцца найбольш прыкметная дынамічнасць ягоных аўтарскіх трэкаў "Учора з вячора" ( з элементамі фальклёру), "Сын, святы дух", "Пілігрымка", "Выратуй душу", "Светлы анёл".

Дарэчы, хоць апошняя назва нібыта зноў прымушае прыгадаць "Краму" (ёсць такая кампазіцыя ў альбоме "Што дапаможа нам" 1998 г.), але гэта зусім іншы твор.

Па-за названымі ўдзельнікамі гурта "Золак" трэба назваць яшчэ Васіля Санковіча (ударныя інструменты), Зміцера Давідовіча




(гітара, вакал,), Уладзіміра Глускага, ды спявачак Насту Барбарчук і Святлану Рагалевіч. Падчас запісу менавіта гэтага альбома (1998 г.) далучаліся таксама клавішнік Павел Анісімавец і перкусіяніст Эльшад Бабаханаў.

Як бачым, плён не быў дасягнуты надта лёгка. Але нават праз тры гады пасля распаду калектыву (1999) выдавецкая ініцыятыва "Задзіночання маладых католікаў" вырашыла, знайшоўшы спонсараў, выпусціць гэтую птушку ў шырокі свет. Вялікая падзяка за гэта фірмам "Санта-кі", "Холін", "VIZAgroup", "MBL Travel" ды іншым. Каб не яны, ажно каля двух дзесяткаў прыгожых мелодыяў і мудрых хрысціянскіх тэкстаў яшчэ доўга б не маглі знайсці свайго слухача.

Паводле настрою ўсе творы гэтага альбома ідэальна кладуцца ў стылістычную плынь амбіентнай музыкі (NEW AGE, WORLD music, модныя цяпер так званыя unplugged). Прыхільнікі акустычных альбомаў Эрыка Клэптана, Арміка і нават "N.R.M." Відавочна новы рэліз, як жаданы дадатак іхняй калекцыі.І гэты дадатак, што немалаважна, на роднай беларускай мове (за выключэннем двух кароткіх фрагментаў усходніх уплываў).

Нельга не сказаць хоць колькі слоў пра мастацкую аздобу выдання. Лаканічнымі мазкамі камп'ютарнай графікі зноў заяўляе аб сваёй адметнай манеры мастак Зміцер Герасімовіч. Той самы, які аздабляў славутыя альбомы "Легенды вялікага княства", "Палац, Лепшае" і знакамітую кнігу Вячаслава Дубінкі "Выцінанкі". На каларытным малюнку твой позірк нібыта ірвецца з зямной багны ў нябесныя высі, што ілюструе яскравы сэнсавы вобраз з песні "Кожны дзень":

*Я хачу пажадаць*
*Сэрцам неба адшукаць.*
*Паслухай, паспрабуй*
*Адкінуць гонар прэч,*
*У неба зазірнуць*
*І ўзляцець.*

Бадай, невыпадкова гэты вобраз даў і назву альбому, бо ў ім закансервавана галоўная ягоная сутнасць. А астатняе – слухайце самі!

*Вітаўт Мартыненка.*




# Віншуем



Шчыра радуецца актыўны сябар нашага Таварыства Мікола Лавіцкі. Сёлета ён стаў двойчы дзядулем. Тацццяна, жонка старэйшага сына Мікалая, выпускніца педуніверсітэта імя Максіма Танка, нарадзіла Насцю, а другая нявестка Вольга, жонка малодшага сына Аляксея, пекарка Менскага хлебазавода № 2, завочніца Маладзечанскага тэхнікума, нарадзіла Карыну.

-- Радасна, - кажа Мікола, а на душы неспакой: ці будуць унучкі шанаваць родную мову і культуру? Гляджу, як сённяшняя ўлада "шчыруе" па вяртанні забранай у народа спадчыны, і робіцца сумна і прыкра на сэрцы.

Мы віншуем сямейку Лавіцкіх з павелічэннем і спадзяемся, што ўнучкі Міколы вырастуць такімі ж шчырымі да Беларушчыны, як і дзед.

Сакратарыят ТБМ.

**На фота:** спадар Мікола з нявестамі і ўнучкамі.

## "Новы Час" - трэці нумар

**9 кастрычніка выйшаў чарговы нумр "Новага Часу". Яго выданне паскорылі ахвяраванні сяброў, прыхільнікаў ТБМ, якім Сакратарыят выказвае шчырую удзячнасць.**

**Узоры трэцяга нумара мы неўзабаве дашлём кіраўнікам усіх абласных і некаторых гарадскіх структур ТБМ.**

**Ахвотныя атрамаць трэці нумар "Н.Ч." запрашаюцца ў сядзібу ТБМ альбо ў сядзібу БНФ (вул. Варвашэні, 8).**

**Наклад гэтага нумара газеты - 1600 асобнікаў (сабекошт - 350 рублёў).**

***Старшыня ТБМ - Алег Трусаў.***

## МАЛАДАФРОНТАЎСКІ СПЕЦНАЗ ПАЧАЎ ПАДРЫХТОЎКУ 9 КАСТРЫЧНІКА

У Менску распачынаюцца штогадовыя Курсы Ды-джэяў Адраджэньня-падрыхтоўка лідэраў у сферы масавых акцыяў, псіхалогіі, шоў і дыскатэкаў, PR, тэлевізіі і радыё, палітыкі і грамадскіх ініцыятываў. Ды-джэяў Адраджэньня называюць "маладафронтаўскім спецназам": выпускнікі такіх элітных курсаў складаюць большасць "афіцэрскага складу" Маладога Фронту і кіраўніцтва многіх асветніцкіх арганізацыяў Беларусі. Удзельнікі дыджэйскіх курсаў праходзяць тэсты і маюць персанальны рэйтынг, які вызначае пераможцаў: менавіта яны і атрымліваюць перспектыву палітычнай і грамадскай "раскруткі" у Беларусі.

Цыкл навучання разлічаны на 12 інтэрактыўных семінараў і серыю выпрабаванняў у галіне тэалогіі, рэкламнага крэатыву, кібернэтыкі, масавай агітацыі і паліталогіі. Прынцып 3-х-месячных курсаў-фармаванне маладых лідэраў у духу нацыянальнай ідэі і хрысціянскіх каштоўнасцяў, паводле формулы "Беларуская форма- хрысціянскі змест".

--Мы рыхтуем каманды, якія будуць гатовыя мяняць усю Беларусь, – кажа кіраўнік групы трэнераў Павал Северынец – праз маніфестацыі, прамовы, тэлевізію, канцэрты словам, праз усё, што цікава моладзі.

Варта нагадаць, што выпускнікамі курсаў Ды-джэяў Адраджэньня 1999-2001 гг. былі пераможца рэспубліканскай алімпіяды па гісторыі і сусветнай (!) геаграфіі Сяржук Васільеў, чэмпіён Беларусі па пажарным спорце Іван Тамашэвіч, кіраўнік Выканаўчага бюро Асамблеі NGO, маладзёвая каардынатарка перадвыбарчых штабоў Домаша і Ганчарыка Алёна Валынец, адзін з лепшых міжнароднікаў Беларусі Сяржук Лісічонак, "Міс Малады Фронт" Даша Навасад, і яшчэ больш трыццаці маладзёвых лідэраў.

Курсы бясплатныя, запрашаюцца ўсе ахвотныя. Пачатковае тэставанне было 9 кастрычніка, у сераду, у 19:30 на Варвашэні, 8 (ст. метро "Плошча Перамогі"). Тэлефон для даведак 239-65-26 (Павал).

Запрашаем будучых лідэраў!

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 16. 10. 2002 г.
Наклад 2550 асобнікаў. Замова № 1932.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
***Кошт у розніцу:*** 120 руб.